# Голас Радзімы

№ 1 (2091)
5 студзеня 1989 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.


В ЭТОМ ЗДАНИИ 30-31 ДЕКАБРЯ 1918 г. ПРОХОДИЛ ПЕРВЫЙ СЪЕЗД КОММУНИСТИЧЕСКОЙ ПАРТИИ БОЛЬШЕВИКОВ БЕЛОРУССИИ, КОТОРЫЙ ОБЪЯВИЛ ОБ ОБРАЗОВАНИИ БЕЛОРУССКОЙ СОВЕТСКОЙ СОЦИАЛИСТИЧЕСКОЙ РЕСПУБЛИКИ.



1 студзеня 1989 года споўнілася 70 гадоў з дня ўтварэння Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі і Камуністычнай партыі Беларусі. Так здарылася, што падзея гэта адбылася ў Смаленску, дзе праходзіла VI канферэнцыя Паўночна-Заходняга абласнога камітэта партыі, якая і аб'явіла сябе I з'ездам КП(б)Б. Карэспандэнты газеты «Голас Радзімы» пабывалі ў горадзе, дзе нарадзілася рэспубліка. Іх рэпартаж змешчаны на стар. 4.

НА ЗДЫМКУ: так выглядае сёння будынак у Смаленску, дзе праходзіў I з'езд КП(б)Б і было абвешчана пра ўтварэнне БССР.

Фота С. КРЫЦКАГА.

# З НАГОДЫ ЮБІЛЕЮ

БЕЗ НАЙМЕНШАГА АДЦЕННЯ КАМПЛІМЕНТАРНАСЦІ, ВОСТРА І ПАЛЕМІЧНА, У ДУХУ ЧАСУ ПРАЙШЛА Ў ЦК КПБ СУСТРЭЧА З ВЕТЭРАНАМІ КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ, ВАЙНЫ І ПРАЦЫ.

**Менавіта гэтыя пасівелыя людзі разам з народам закладвалі фундамент новага жыцця ў горадзе і вёсцы, стаялі насмерць у бітве з інтэрвентамі розных масцей, узнімалі з руін і попелу гарады, школы, заводы. Але яны менш за ўсё гаварылі пра свае мінулыя заслугі, хоць ім ёсць што ўспомніць.**

**Выступленняў на сустрэчы было многа. Старыя камуністы падкрэслівалі, што беларуская партыйная арганізацыя заўсёды была моцная пераемнасцю кіраўніцтва, адданасцю народу, інтэрнацыяналізмам. І цяпер, калі ў краіне ідзе рэвалюцыйнае абнаўленне, мы не маем права нават на адзін крок звярнуць з ленінскага шляху. Таму ў штодзённай рабоце, у прапагандзе сацыялістычных ідэалаў трэба рашуча пазбаўляцца ад руціны, шаблону. Шлях тут адзін — праўда.**

* * *

ДЛЯ ЎДЗЕЛУ Ў МЕРАПРЫЕМСТВАХ, ПРЫСВЕЧАНЫХ 70-ГОДДЗЮ БЕЛАРУСКАЙ ССР І КАМПАРТЫІ БЕЛАРУСІ, У МІНСК ПРЫБЫЛА ПАРТЫЙНА-ДЗЯРЖАЎНАЯ ДЭЛЕГАЦЫЯ ПОЛЬСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ, ЯЕ ЎЗНАЧАЛЬВАЎ ЧЛЕН ПАЛІТБЮРО, САКРАТАР ЦК ПАРП ЮЗЭФ ЧЫРЭК. У САСТАВЕ ДЭЛЕГАЦЫІ — НАМЕСНІК СТАРШЫНІ САВЕТА МІНІСТРАЎ ПНР ЯНУШ ПАТОРСКІ І ПЕРШЫ САКРАТАР БЕЛАСТОЦКАГА ВАЯВОДСКАГА КАМІТЭТА ПАРП УЛАДЗІМЕЖ КАЛАДЗЕЮК.

**Дэлегацыя ўсклала вянкі да помніка У. І. Леніну і да манумента на плошчы Перамогі.**

**У Цэнтральным Камітэце Кампартыі Беларусі адбылася цёплая, сяброўская гутарка першага сакратара ЦК КПБ Я. Сакалова з членамі дэлегацыі. Адзначалася, што мацнеючыя ўсебаковыя сувязі паміж дзвюма рэспублікамі садзейнічаюць паглыбленню працэсаў перабудовы ў СССР і сацыялістычнага абнаўлення ў ПНР. Канкрэтным увасабленнем гэтага з'яўляецца расшырэнне прамых сувязей паміж працоўнымі калектывамі беларускіх і польскіх прадпрыемстваў, актыўныя кантакты ў галіне навукі і культуры.**

* * *

У СУВЯЗІ СА СВЯТАМ ПЕРШЫ САКРАТАР ЦК ПАРП, СТАРШЫНЯ ДЗЯРЖАЎНАГА САВЕТА ПНР ВОЙЦЕХ ЯРУЗЕЛЬСКІ ДАСЛАЎ ВІНШАВАННЕ ЦЭНТРАЛЬНАМУ КАМІТЭТУ КАМПАРТЫІ БЕЛАРУСІ, ПРЭЗІДЫУМУ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БССР І САВЕТУ МІНІСТРАЎ БССР.

**У ім, у прыватнасці, гаворыцца: «Важныя працэсы перабудовы ў СССР і сацыялістычнага абнаўлення ў Польшчы, у якіх так цесна ўзаемадзейнічаюць нашы партыі, ствараюць якасна новыя ўмовы для ўсебаковага развіцця, умацавання і паглыблення супрацоўніцтва і дружбы Польшчы і Беларусі. Мы з задавальненнем вітаем паскоранае, асабліва ў апошні перыяд, развіццё прамых кантактаў паміж прыгранічнымі рэгіёнамі, гарадамі, ваяводствамі і абласцямі, а таксама грамадзянамі абедзвюх краін. Істотную ролю ў працэсе ўзаемнага збліжэння адыгрываюць палякі, якія жывуць у Беларусі, і беларусы, якія жывуць у Польшчы».**

* * *

НАПЯРЭДАДНІ ЮБІЛЕЮ ВЫЙШЛА ПАСТАНОВА ЦК КП БЕЛАРУСІ І САВЕТА МІНІСТРАЎ БССР АБ ПРЫСВАЕННІ ДЗЯРЖАЎНЫХ ПРЭМІЙ БЕЛАРУСКАЙ ССР 1988 ГОДА ЗА ЛЕПШЫЯ ПРАЦОЎНЫЯ ДАСЯГНЕННІ, НАВУКОВЫЯ І ТЭХНІЧНЫЯ РАСПРАЦОЎКІ, У ГАЛІНЕ ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА І АРХІТЭКТУРЫ.

**Сярод узнагароджаных пісьменнікі Міхась Стральцоў (пасмяротна) за кнігу вершаў «Мой свеце ясны», Вячаслаў Адамчык за раманы «Чужая бацькаўшчына», «Год нулявы», «І скажа той, хто народзіцца», кампазітар Андрэй Мдзівані за сімфоніі № 5 «Памяць зямлі» і № 6 «Полацкія пісьмёны», Уладзімір Анічэнка, доктар філалагічных навук, прафесар Гомельскага дзяржуніверсітэта імя Францыска Скарыны за цыкл работ «Скарыніяна» і іншыя.**

У АН БССР

## НАВУКОВАЯ СЕСІЯ

**70-годдзю ўтварэня БССР і Кампартыі Беларусі была прысвечана навуковая сесія Акадэміі навук БССР, якая адбылася ў Мінску.**

**Уступным словам яе адкрыў прэзідэнт Акадэміі навук рэспублікі акадэмік У. Платонаў. З дакладамі аб утварэнні Камуністычнай партыі Беларусі, станаўленні беларускай савецкай дзяржаўнасці, навукова-тэхнічным прагрэсе ў рэспубліцы выступілі акадэмік АН БССР І. Ігнаценка, доктар юрыдычных навук В. Круталевіч, акадэмік АН БССР А. Сцепаненка.**

**Дакладчыкі падрабязна прааналізавалі гістарычны шлях, пройдзены рэспублікай і яе Кампартыяй за сем дзесяцігоддзяў. Падкрэслівалася, што ў дружнай сям'і народаў Савецкага Саюза, з іх брацкай дапамогай Беларусь у кароткі тэрмін ліквідавала векавую адсталасць і стала развітой індустрыяльна-аграрнай рэспублікай, ажыццявіла грандыёзныя пераўтварэнні ў галіне культуры, духоўным жыцці народа.**

**На сесіі адзначаліся і праблемы будаўніцтва сацыялістычнага грамадства ў рэспубліцы. Яе развіццё, як і ўсёй краіны, праходзіла ў складанай, супярэчлівай абстаноўцы.**

# З ДАКЛАДА ПЕРШАГА САКРАТАРА ЦК КПБ ЯФРЭМА САКАЛОВА

**30 снежня ў горадзе-героі Мінску адбылося ўрачыстае пасяджэнне Цэнтральнага Камітэта Кампартыі Беларусі і Вярхоўнага Савета Беларускай ССР з удзелам прадстаўнікоў партыйных, савецкіх і грамадскіх арганізацый рэспублікі, Савецкай Арміі, прысвечанае 70-годдзю Беларускай ССР і Кампартыі Беларусі.**

**На ўрачыстым пасяджэнні прысутнічалі таксама дэлегацыі Польскай Народнай Рэспублікі на чале з членам Палітбюро, сакратаром ЦК Польскай аб'яднанай рабочай партыі Юзэфам Чырэкам, Украінскай ССР, Літоўскай ССР, горада-героя Масквы, горада-героя Ленінграда, Смаленскай вобласці і іншыя.**

**З дакладам перад прысутнымі выступіў першы сакратар ЦК КПБ Яфрэм Сакалоў.**

● Свае свята мы адзначаем у пераломны час, калі жыццё краіны, жыццё рэспублікі, жыццё кожнага з нас уладарна вызначае галоўны прыярытэт нашай рэчаіснасці — рэвалюцыйнае абнаўленне грамадства.

● Дакладная гуманістычная накіраванасць курсу партыі на перабудову—якасна новы этап практычнага ўвасаблення гуманізму Кастрычніка, які назаўсёды пакончыў з эксплуатацыяй чалавека чалавекам, беспрацоўем, галечай і непісьменнасцю; устанавіў паміж людзьмі адносіны, заснаваныя на калектывізме, супрацоўніцтве, узаемадапамозе; адкрыў народным масам доступ да ўсіх крыніц ведаў; забяспечыў роўнае права на працу.

Для нас гэта ўсё прывычна і само сабой зразумелае. І мы рэдка задумваемся аб тым, што гэтыя і многія іншыя нашы сацыяльна-палітычныя заваёвы застаюцца ў многіх краінах свету толькі надзеяй, марай працоўных.

Марыў аб іх і беларускі народ. Аб яго жыцці да Кастрычніка, яго беспрасветнай беднасці, сацыяльным і нацыянальным прыгнёце добра памятае старэйшае пакаленне. Аб гэтым засталося і нямала дакументальных сведчанняў. І мы зноў і зноў звяртаем розум, звяртаем душу да вялікіх вытокаў, да кастрычніцкіх дзён. Мы яшчэ і яшчэ раз пераконваемся ў правільнасці зробленага ў Кастрычніку выбару.

Нам, удзельнікам і сведкам цяперашніх пераўтварэнняў, часам цяжка ацаніць перамены, якія зараз адбываюцца. Нам усё здаецца—мала, нам усё здаецца—марудна. Так, мы не задаволены ні тэмпамі, ні аб'ёмамі, ні якасцю. Мы не задаволены і многім іншым. Але варта агледзецца, задумацца—і выразна ўяўляеш, якая шырокая паласа паміж «учора» і «сёння».

● Спалучыць развіццё дэмакратыі з вырашэннем канкрэтных праблем, рэальным рухам наперад на ўсіх участках гаспадарчага і культурнага будаўніцтва—такое патрабаванне часу. Вось чаму наша неадкладная задача—узмацніць барацьбу з сацыяльным утрыманствам, пасіўнасцю, безгаспадарчасцю, абыякавасцю да працы і грамадскіх спраў.

Не маем мы права не бачыць і іншыя негатыўныя праяўленні. Сёй-той, зыходзячы са сваіх вузкаэгаістычных, амбіцыйных пабуджэнняў, спрабуе падвергнуць сумненню заваёвы Кастрычніка, асноўныя каштоўнасці нашага грамадства, саюз і дружбу народаў савецкай многанацыянальнай Айчыны.

Мы—за разнастайнасць думак, за тое, каб абмяркоўваць любое пытанне, якім бы вострым яно ні было, з усімі групамі грамадства. Мы—за дыскусіі, за супастаўленне поглядаў, калі яны накіраваны на ўмацаванне і ўзбагачэнне сацыялістычных асноў Савецкай дзяржавы.

Мы з разуменнем адносімся да ўсіх, хто разам з партыйнымі, прафсаюзнымі, камсамольскімі арганізацыямі, савецкімі органамі імкнецца актыўна ўдзельнічаць у абнаўленні грамадства, і рашуча супраць тых, чые пазіцыі супярэчаць сацыялістычным ідэалам, хто не паскарае справу, а перашкаджае ёй.

Мы падзяляем усё мацнеючае патрабаванне працоўных спыніць дэмагогаў, ахаваць рэвалюцыйныя пераўтварэнні ад экстрэмізму, даваць адпор тым, хто спрабуе ўтапіць перабудову ў патоку звонкіх фраз, падкінуць чужыя нам каштоўнасці.

Абавязак кожнага з нас, незалежна ад узросту і прафесіі, нацыянальнасці і веравызнання—усіх, хто сапраўды заклапочаны лёсам народа, яго будучыняй, — словам і справай садзейнічаць кансалідацыі грамадскіх сіл у напрамку паскарэння перабудовачных працэсаў.

● Для паскарэння гэтага працэсу важна і далей умацоўваць згуртаванасць і адзінства ўсіх нацый і народнасцей сацыялістычнай Айчыны. Дружба народаў, роўнасць усіх нацый і народнасцей—сапраўды ўражальны вынік ажыццяўлення ленінскай нацыянальнай палітыкі.

Для працоўных Беларусі гэтыя паняцці напоўнены асаблівым сэнсам. На працягу ўсёй нашай 70-гадовай гісторыі не было перыяду, калі б рэспубліка не адчувала сілы адзінства і брацтва народаў СССР.

● У адзіночку нам бы не збавіцца ад фашысцкай нечысці. У адзіночку нам бы не ўзняць за кароткі час з руін і попелу гарады і вёскі, заводы і фабрыкі. І мы і нашы патомкі будуць вечна ўдзячны вялікаму рускаму народу, усім брацкім народам нашай Айчыны за бескарыслівую дапамогу і ўсебаковую падтрымку.

● Дэвіз «Трывалы саюз—гэта моцны цэнтр і моцныя рэспублікі» як нельга лепш адпавядае інтарэсам усіх народаў нашай многанацыянальнай дзяржавы.

● Сапраўды народная, нацыянальная па форме і сацыялістычная па зместу беларуская культура развіваецца ва ўмовах яднання культур брацкіх рэспублік на аснове іх узаемаўплыву і ўзаемадапамогі. Яна апіраецца на трывалы фундамент, які заклалі выдатныя сыны беларускага народа Францыск Скарына, Сімяон Полацкі, Кастусь Каліноўскі, Францішак Багушэвіч, Янка Купала і Якуб Колас.

● Большай дзейснасці і канкрэтнасці патрабуе ад усіх нас рэформа агульнаадукацыйнай і прафесіянальнай школы. Трэба будзе істотна ўмацаваць матэрыяльную базу народнай асветы. Мы намячаем да 1995 года поўнасцю задаволіць патрэбнасць у дзіцячых дашкольных установах, да 2000 у піянерскіх лагерах, перавесці агульнаадукацыйныя школы на аднасменны рэжым работы, забяспечыць па новых нарматывах ВНУ і тэхнікумы вучэбнымі плошчамі, інтэрнатамі, сталовымі, спартыўнымі збудаваннямі.

Гэта дазволіць зрабіць буйны крок наперад у вырашэнні найважнейшай сацыяльнай задачы —пераўтварэння народнай асветы ў магутны сродак захавання, развіцця і перадачы накопленых чалавецтвам духоўных багаццяў, на поўную сілу ўвесці ў дзеянне рашаючы фактар паскарэння і культурнага развіцця грамадства.

Калі мы ставім і вырашаем такія маштабныя задачы, міжволі звяртаемся да мінулага, да таго, з чаго пачыналі. Гісторыя сведчыць: Беларусь была самай непісьменнай часткай царскай Расіі. Такі гіганцкі скачок за гістарычна кароткі тэрмін магчымы толькі ва ўмовах сацыялістычнага грамадства, галоўная мэта якога—забяспечыць усебаковае развіццё чалавека.

ВЫСТАЎКІ






**Каля 1 000 выданняў прадстаўлена на Рэспубліканскай кніжнай выстаўцы, прысвечанай 70-годдзю ўтварэння БССР і Кампартыі Беларусі, якая адкрылася ў выставачнай зале магазіна «Светач». Гэта прадукцыя ўсіх 11 выдавецтваў нашай рэспублікі. Тэматыка выстаўкі адлюстравана ў раздзелах: «Пад сцягам Кастрычніка», «Станаўленне рэспублікі», «Беларусь на міжнароднай арэне». «Школьнік, студэнт, настаўнік», «Пісьменнікі і мастакі дзецям», «Мастацкае слова» і многіх іншых.**

**У праграме выстаўкі прадугледжаны творчыя сустрэчы з пісьменнікамі, паэтамі, работнікамі выдавецтваў.**

**НА ЗДЫМКАХ: беларускія паэты Уладзімір КАРЫЗНА (злева) і Васіль ЗУЁНАК знаёмяцца з выстаўкай; мініяцюрныя выданні, прадстаўленыя ў экспазіцыі.**

## *БОЛЬШ САЦЫЯЛІЗМУ — ГЕНЕРАЛЬНАЯ ЛІНІЯ ПЕРАБУДОВЫ*

# ЖЫВЫЯ ПЫТАННІ ЖЫВОГА ЖЫЦЦЯ

### ІНТЭРВ'Ю «ГОЛАСУ РАДЗІМЫ» ДАЕ СТАРШЫНЯ ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БССР ГЕОРГІЙ ТАРАЗЕВІЧ

**— Георгій Станіслававіч, мусіць, каб інтэрв'ю з вамі было некалькі гадоў назад, мы, не задумваючыся, пачалі б яго з пытання аб поспехах, якіх дасягнула наша рэспубліка за 70 гадоў Савецкай улады. Але сёння, здаецца, больш правільным будзе паставіць пытанне так: што набылі беларусы і якія маюць страты на гэтым гістарычна невялікім адрэзку часу!**

— Кастрычніцкая рэвалюцыя адкрыла перад усімі народамі, якія насялялі тады Расію, дарогу да будаўніцтва і сцвярджэння зусім новага сацыялістычнага грамадства. Менавіта Вялікі Кастрычнік ліквідаваў нацыянальны прыгнёт, народы атрымалі рэальнае права на нацыянальнае самавызначэнне. Упершыню ў гісторыі набыў сваю дзяржаўнасць і беларускі народ.

Матэрыяльныя, сацыяльныя і палітычныя ўмовы для ўсебаковага развіцця наша Беларусь, як і іншыя савецкія рэспублікі, атрымала дзякуючы стварэнню Саюза ССР. Узаемадапамога савецкіх народаў, аб'яднанне іх рэсурсаў, узаемнае ўзбагачэнне вопытам надалі вялікае паскарэнне развіццю кожнай рэспублікі, у тым ліку і Беларускай.

Да Кастрычніцкай рэвалюцыі 80 працэнтаў беларусаў былі непісьменнымі. З часоў Пушкіна, а менавіта з 1835 да 1917 года, у Беларусі было выдадзена ўсяго 320 кніг. Пасля рэвалюцыі непісьменнасць была ліквідавана ў кароткі тэрмін. Ужо ў першыя гады адкрыліся нацыянальны універсітэт, вышэйшыя і сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы, а ў 1929 годзе створана Акадэмія навук БССР.

Вялікія здабыткі. **Але сёння** мы ведаем, што яны маглі быць значна большымі, каб не змрочныя часы сталінскай беззаконнасці, калі пацярпелі многія тысячы ні ў чым невінаватых людзей. Толькі ў 1936 — 1937 гадах сярод рэпрэсіраваных — значная частка партыйных і савецкіх работнікаў, творчай інтэлігенцыі, простых рабочых і сялян. Цудам пазбеглі гэтага страшнага лёсу некаторыя дзеячы беларускай культуры і выдатныя пісьменнікі.

Вельмі нялёгка і няпроста праходзіла і калектывізацыя сельскай гаспадаркі. Звышвысокія тэмпы яе, зневажанне так званага «серадняка», папіранне правоў агульных сходаў калгаснікаў, неабгрунтаваныя і частыя замены кіраўнікоў калгасаў, безумоўна, падарвалі веру беларускіх сялян у справядлівасць. Шлях насілля і жорсткасці пад відам сацыялістычнага пераўтварэння на вёсцы не падлягае ніякаму апраўданню.

Сталінскія выканаўцы ў сваіх супрацьзаконных дзеяннях не ў апошнюю чаргу выкарыстоўвалі і звычайныя нацыянальныя пачуцці людзей. Нацыянал-шавіністычным абвяшчалася ледзь ці не ўсё нацыянальнае. Зразумела, гэта не магло не пакінуць след на псіхалогіі людзей, на лёсе як беларускай мовы, так і культуры ўвогуле.

У канцы 50-х гадоў працавала спецыяльная камісія ЦК КПБ па рэабілітацыі незаконна рэпрэсіраваных. Былі вернуты чэсныя імёны дзесяткам, тысячам людзей. Восенню 1988 года створана камісія Бюро ЦК КПБ па дадатковаму вывучэнню матэрыялаў, звязаных з рэпрэсіямі перыяду 30—40-х гадоў і пачатку 50-х гадоў. Зняты незаслужаныя абвінавачанні з соцень нашых землякоў, многія з іх адноўлены ў радах партыі. Поўнасцю рэабілітаваны старшыня першага савецкага Беларускага ўрада Д. Жылуновіч. Дарэчы, калі камісія 50-х гадоў працавала толькі па заявах і скаргах рэпрэсіраваных ці іх сваякоў, то цяпер разглядаюцца літаральна ўсе крымінальныя справы, якія былі аднесены заканадаўствам таго часу да контррэвалюцыйных. Так, праўда павінна быць толькі адна, такая, якая яна ёсць, з усімі яе светлымі і змрочнымі бакамі, ва ўсёй яе супярэчнасці. Аб гэтым партыя мужна заявіла на красавіцкім Пленуме ЦК КПБ 1985 года, гэта яшчэ раз пацвердзіла XIX партканферэнцыя. Суровыя ўрокі мінулага, задачы перабудовы, наша будучыня прымушаюць нас удасканальваць эканоміку і ідэалогію, настойліва рухацца наперад.

Беларусь сёння — гэта частка адзінага народнагаспадарчага комплексу краіны, рэспубліка шматгаліновай прамысловасці, буйной высокаразвітой сельскай гаспадаркі. Прадукцыя з маркай беларускіх прадпрыемстваў пастаўляецца больш чым у 100 краін свету.

Зроблена нямала, у тым ліку і за гады дванаццатай пяцігодкі. Папярэднія вынікі сведчаць, што ў развіцці эканомікі і сацыяльнай сферы рэспублікі ёсць пазітыўныя зрухі. Нацыянальны даход за тры гады павялічыўся на 15 працэнтаў, аб'ём прамысловай вытворчасці — на 21 працэнт. Пабудавана 300 тысяч кватэр, перавыкананы план па ўводу ў дзеянне школ, бальніц і паліклінік. Больш устойліва працуе аграпрамысловы комплекс.

Ідзе перабудова эканамічнага механізма. Прамысловасць, сельская гаспадарка, іншыя галіны пераведзены на поўны гаспадарчы разлік і самафінансаванне. Укараняюцца падрад, арэнда і г. д.

Наша рэспубліка актыўна ўдзельнічае і ў міжнародным жыцці, уносіць дастойны ўклад у ажыццяўленне задач савецкай знешняй палітыкі.

**— Выступаючы нядаўна на канферэнцыі Савецкай раённай партыйнай арганізацыі горада Мінска, вы сказалі, што мы жывём у вельмі адказны час. У чым яго адметнасць!**

Цяперашнія пераўтварэнні па свайму зместу, глыбіні і размаху мы з поўным правам называем рэвалюцыйнымі. Канчатковая мэта іх — надаць сацыялізму самыя сучасныя формы грамадскай арганізацыі, найбольш поўна раскрыць гуманістычны характар нашага ладу ва ўсіх рашаючых аспектах — эканамічным, сацыяльна-палітычным і маральным.

Зразумела, гэта рэвалюцыя асобая. Яна не замяняе сацыялістычнага спосабу вытворчасці на які-небудзь іншы, як хацелася б праціўнікам сацыялізму, а працякае ў рамках адной грамадска - эканамічнай фармацыі. Разам з тым яна знамянуе пераход савецкага грамадства з аднаго якаснага стану ў другі, больш высокі. Больш сацыялізму — генеральная задача перабудовы.

Як і ўся краіна, Беларусь жыве перабудовай. У цэнтры нашай увагі — дэмакратызацыя грамадства, рэформа палітычнай сістэмы, павышэнне ролі эканамічных метадаў гаспадарання. Трэба сказаць, што на сённяшні дзень ходам перабудовы, яе тэмпамі мы пакуль што не задаволены. Але працэс абнаўлення незваротны.

**— Наступнае пытанне — зноў сведчанне таго, што краіна перажывае рэвалюцыйную сітуацыю. Як і ў 1917 годзе, на парадку дня лозунг: «Уся ўлада Саветам!». Аднак якім новым зместам напоўнены гэты заклік сёння!**



— Сярод актуальных праблем перабудовы — маючая адбыцца рэформа палітычнай сістэмы. Калі ўдумліва паглядзець на задачы, якія гэта рэформа мае на мэце, можна ўбачыць дзве стратэгічныя лініі, дзве галоўныя ідэі, што ляжаць у яе аснове. Першая — гэта дакладнае размежаванне функцый партыйных і савецкіх органаў і другая — ажыццяўленне ўлады выбарнымі органамі, гэта значыць Саветамі, а не іх выканкомамі. Сутнасць рэформы — у аднаўленні ленінскіх прынцыпаў народаўладдзя, калі менавіта Савет з'яўляецца сапраўдным гаспадаром на сваёй тэрыторыі, а рэальны ўдзел усіх выбаршчыкаў у кіраванні дзяржавай забяспечваецца праз іх прадстаўнікоў у выбарчых органах.

Рэформа праводзіцца ў некалькі этапаў. Яе першы крок — абмеркаванне Законаў аб змяненнях і дапаўненнях Канстытуцыі СССР і аб выбарах народных дэпутатаў СССР — завершаны. Законы прыняты, і яны ўступілі ў дзеянне. Заўважу, што абмеркаванне было надзвычай зацікаўленым і сапраўды ўсенародным. Толькі ў Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР ад грамадзян паступіла звыш шасці тысяч канкрэтных прапаноў. Яны датычыліся фарміравання вышэйшых органаў дзяржаўнай улады, вызначэння паўнамоцтваў з'езда народных дэпутатаў, забеспячэння незалежнасці суддзяў. Не засталіся абыякавымі людзі і да перамен у выбарчай сістэме. Больш за ўсё прапаноў было звязана з нормамі, якія рэгулююць вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты і правядзенне выбараў. На выбарах павінна быць забяспечана рэальная спаборнасць будучых дэпутатаў — такое патрабаванне выбаршчыкаў. І, здаецца, яно пачынае рэалізоўвацца ў разгорнутай перадвыбарнай кампаніі.

**— Хацелася б даведацца, як Саветамі ажыццяўляецца ў рэспубліцы сацыяльная праграма, намечаная XXVII з'ездам КПСС.**

— Усе мы, у тым ліку і Саветы, праходзім цяпер школу дэмакратыі. Менавіта праз яе ляжыць шлях да сапраўднага народаўладдзя, менавіта ў ёй невычарпальныя рэзервы і магчымасці. Чаго чакаюць людзі ад пераўтварэнняў? У першую чаргу хутчэйшага вырашэння надзённых праблем, якія накапіліся за многія гады літаральна ва ўсіх сферах жыцця. Прадукты харчавання, жыллё, забеспячэнне насельніцтва таварамі і паслугамі — вось асноўныя напрамкі на сучасным этапе.

Прывяду некалькі лічбаў, якія характарызуюць дынаміку сацыяльнай сферы рэспублікі ў XII пяцігодцы. У невытворчыя сферы, непасрэдна звязаныя з ростам дабрабыту насельніцтва, накіравана звыш 8 мільярдаў рублёў, або 27 працэнтаў ад агульнага аб'ёму капіталаўкладанняў, накіраваных у народную гаспадарку. У 1989 годзе яны складуць 35 працэнтаў. На 29 працэнтаў павялічваецца выпуск нехарчовых тавараў, а аб'ём платных паслуг — больш чым у паўтара раза. У мінулай пяцігодцы штогод уводзілася ў эксплуатацыю 85 тысяч кватэр, у цяперашняй — каля 100 тысяч. У навуку, адукацыю, культуру і ахову здароўя сродкаў укладваецца ў паўтара — два разы больш.

**— Яшчэ не так даўно, асвятляючы нацыянальнае пытанне, мы аперыравалі ў асноўным паняццем «дружба народаў». Зараз усё часцей гаворым пра гарманізацыю міжнацыянальных адносін. Як вядома, на апошняй сесіі Вярхоўнага Савета БССР нават была створана пастаянная Камісія па нацыянальных пытаннях і міжнацыянальных адносінах. Які стан гэтых складаных праблем у рэспубліцы!**

— Наша рэспубліка—састаўная і неад'емная частка Савецкага Саюза. І ўсімі дасягненнямі яна абавязана не толькі працавітасці сваіх людзей, але і бескарыслівай брацкай дапамозе ўсіх савецкіх народаў. Успомнім напрыклад, пасляваенны перыяд. Толькі дзякуючы велізарнай падтрымцы саюзных рэспублік Беларусь у найкарацейшыя тэрміны залячыла цяжкія раны фашысцкай акупацыі. Была адноўлена і атрымала далейшае развіццё эканоміка, створаны зусім новыя галіны прамысловасці. І, вядома ж, нельга забываць, што і да гэтай пары многія віды матэрыялаў і сыравіны мы атрымліваем з усіх куткоў нашай краіны.

Аналагічная сітуацыя і ў іншых саюзных рэспубліках. Вось зусім нядаўні прыклад. У час страшэннага стыхійнага бедства, якое напаткала братнюю Арменію, ёй на дапамогу прыйшла ўся краіна, усе савецкія народы. У першыя дні туды кінуліся на дапамогу выратавальнікі, урачы, цяпер едуць будаўнікі. Бесперапынна самалёты і паязды дастаўляюць на пакутную зямлю медыкаменты, адзенне, прадукты, тэхніку і абсталяванне. Што было б з армянскім народам, каб ён сам-насам застаўся са сваёй бядой?

Аднак міжнацыянальныя адносіны, як і любая грамадская з'ява, не могуць быць чымсьці раз і назаўсёды вырашанымі. Нацыянальныя адносіны ў нашай краіне — гэта жывое пытанне жывога жыцця. Адсюль і праблемы — шматбаковыя, складаныя, нават супярэчлівыя.

Зразумела, што не можа стаяць убаку ад мноства ўзнікаючых праблем і наш Вярхоўны Савет. Дзейсным яго інструментам у гэтай няпростай справе якраз і з'явіцца пастаянная Камісія па нацыянальных пытаннях і міжнацыянальных адносінах. Дарэчы, падобнае фарміраванне існавала ўжо ў рэспубліцы ў 20-я гады.

**— Наш час — час вырашэння вялікіх і складаных праблем. Адна з іх — стан нацыянальнай культуры, нацыянальнай мовы. Як вырашаецца яна ў Беларусі!**

— Разважаючы аб міжнацыянальных адносінах у нашай рэспубліцы, у першую чаргу неабходна адзначыць наяўнасць сур'ёзных праблем у развіцці нацыянальнай культуры, і асабліва — беларускай мовы. За пасляваенныя гады сфера яе прымянення значна звузілася.

Якім бачыцца выйсце? Няпростае пытанне. Існуе, скажам, думка, што самы правільны шлях — выкарыстаць сілу і аўтарытэт дзяржавы, прымяніць уладу. А калі так, значыць, заканадаўча аб'явіць у рэспубліцы дзяржаўнай мовай беларускую, і толькі, маўляў, яе адну. Тое, што лёс мовы — справа дзяржаўная, зусім правільна. А вось ці трэба тут прымяняць уладу, сілу закона? Перакананы, што ўвядзенне ў рэспубліцы адзінай дзяржаўнай мовы не дапаможа вырашэнню праблемы, а, наадварот, пашкодзіць. Дырэктыўным падыходам тут можна дабіцца толькі аднаго: адмоўных адносін да гэтага не толькі прадстаўнікоў іншых нацый, але і тых беларусаў, якія, на жаль, свабодна не валодаюць роднай мовай.

Многае ўжо і робіцца. Цэнтральным Камітэтам Кампартыі Беларусі і ўрадам рэспублікі зацверджаны адпаведныя мерапрыемствы, якія прадугледжваюць адкрыццё беларускамоўных дзіцячых садоў, школ, класаў, расшырэнне маштабаў вывучэння роднай мовы ў вышэйшых навучальных установах, павелічэнне тыражоў выданняў на беларускай мове, узбагачэнне творамі беларускіх аўтараў рэпертуару творчых прафесіянальных і самадзейных калектываў. Будзе палепшана падрыхтоўка і перападрыхтоўка кадраў для выкладання беларускай мовы і літаратуры. Распрацаваны меры, якія прадугледжваюць далейшае ўсебаковае развіццё беларуска-рускай двухмоўнасці, рыхтуецца доўгатэрміновая рэспубліканская праграма «Родная мова». Намячаецца таксама вялікая работа па ўзняццю ўзроўню беларускай культуры і мастацтва, захаванню помнікаў гісторыі. Ёсць і іншыя праблемы.

Вельмі важна цяпер ажыццявіць неадкладныя меры па ўдасканаленню патрыятычнага і інтэрнацыянальнага выхавання ўсіх слаёў насельніцтва, і асабліва моладзі. Адначасова, апіраючыся на сілу пераканання і аўтарытэт закона, неабходна процідзейнічаць любым спробам перавесці натуральныя нацыянальныя пачуцці ў разбуральны напрамак нацыяналізму, процідзейнічаць імкненню некаторых асоб выкарыстаць расшырэнне дэмакратыі і публічнасці ў антыдэмакратычных мэтах.

Усё, што накіравана на развіццё нацыянальнай культуры, на ахову інтарэсаў любога з народаў, якія пастаянна жывуць у рэспубліцы, заслугоўвае самых уважлівых адносін. Мне здаецца, разумна паступілі нядаўна кіраўнікі мясцовых Саветаў Гродзенскай вобласці, калі прынялі рашэнне адкрыць некалькі школьных класаў для жадаючых вывучаць польскую мову. У Гродне, Навагрудку і некаторых іншых раёнах Гродзенскай вобласці пачало працаваць польскае культурна-асветнае таварыства імя Адама Міцкевіча, а ў Мінску — аб'яднанне аматараў яўрэйскай культуры. Людзі аб'ядноўваюцца, каб лепш ведаць сваю гісторыю, развіваць культуру, мову самаўдасканальвацца. І гэта можна толькі вітаць.

Так што, і «маладой» нашай дэпутацкай Камісіі па нацыянальных пытаннях і міжнацыянальных адносінах, а ў састаў яе ўваходзяць вядомыя беларускія пісьменнікі, мастакі, рабочыя, калгаснікі, настаўнікі, ёсць над чым плённа працаваць.

# У СМАЛЕНСКУ 70 ГАДОЎ НАЗАД І СЁННЯ







Смаленск... Сёння і ў снежні 70 гадоў назад... Накont «сёння» ўсё было проста: селі ў Мінску ў скоры поезд Варшава—Масква, і не прайшло чатырох гадзін, як ужо выйшлі са смаленскага вакзала: глядзі, любуйся, дзякуй, ёсць на што. Што ж тычыцца горада ў 1918-м, уявіць яго нам дапамагалі і самі гарадскія вуліцы, і шматлікія мемарыяльныя шыльды на будынках, і сустрэчы са смалянамі, і дакументы (якіх захавалася, на жаль, лічаныя адзінкі), нават пагода. Спачатку нас суправаджала слота, туман, падаў і віхрыўся разам з ветрам мокры снег. А праз дзень—яркія сонечныя блікі перасякалі фасады дамоў, іскрыліся сняжынкі, нагадваў пра сябе перадвавагодні марозік. Не ведаю, якое надвор'е было ў Смаленску ў тыя памятныя для Беларусі дні, калі ўпершыню прагучала: «Утворана Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка», але мы мелі магчымасць уявіць сабе ход падзей нібы ў дзвюх «дэкарацыях».

### ГІСТАРЫЧНАЯ ДАВЕДКА

**1918**

| | |
|---|---|
| 10 снежня | **Вызваленне Мінска ад нямецкіх акупантаў. Утварэнне Мінскага губернскага ваенна-рэвалюцыйнага камітэта.** |
| 21—23 снежня | **Канферэнцыя беларускіх секцый Расійскай Камуністычнай партыі (бальшавікоў) у Маскве.** |
| 30—31 снежня | **VI Паўночна-Заходняя абласная канферэнцыя РКП(б) у Смаленску, якая абвясціла сябе I з'ездам Камуністычнай Партыі (бальшавікоў) Беларусі. Прынятце пастановы аб утварэнні БССР.** |

Магчыма, ідэю пабываць у мясцінах, дзе нарадзілася наша рэспубліка, напярэдадні яе сямідзесяцігоддзя нельга назваць вельмі арыгінальнай. Але яна лагічная і заканамерная, што, на маю думку, больш важна. Людзі ў дзень нараджэння любяць дастаць сямейны альбом і з нейкім незвычайным пачуццём разглядаюць старыя фотаздымкі: «вось я толькі з'явіўся на свет, першы раз у першы клас, а гэта—вяселле...» Тут жа, можна лічыць, дзень нараджэння ва ўсіх нас, цяпер ужо зноў дзесяці мільёнаў жыхароў Савецкай Беларусі.

...У Смаленскім гарадскім камітэце партыі, куды мы прыйшлі, нас сустрэлі ветліва, дружалюбна. Паведаміўшы: «вы ўжо пятая за апошні месяц журналісцкая брыгада з Беларусі», тым не менш зрабілі ўсё, каб дапамагчы ў рабоце. Разумелі: у жыцці суседзяў-беларусаў нештодзённая падзея і, нягледзячы на вялікую колькасць уласных неадкладных праблем, умелі пасяброўску падзяліць нашы пачуцці. Так было ўсюды: ад кіраўніцтва горада да рабочага ў філармоніі, якая займае той стары будынак, дзе калісьці праходзіла VI канферэнцыя. І хоць, як кажуць, на кампліменты мы не напрошваліся, чуць добрыя словы пра нашу Беларусь даводзілася неаднойчы і ад самых розных людзей.

Зала, у якой 70 гадоў назад выступалі дэлегаты VI Паўночна-Заходняй абласной канферэнцыі, па-ранейшаму «працуе». Яна, як і сам будынак, выдатна выглядае, нядаўна адрэстаўрыравана, аформлена з густам, з улікам таго, што цяпер гэта месца сустрэч з высокім мастацтвам.

### СЛОВА ДАКУМЕНТУ

**З Пратакола 1 з'езда Камуністычнай Партыі (бальшавікоў) Беларусі.**

**«Адкрылася канферэнцыя ў 1 гадзіну 20 мінут дня пад гукі Інтэрнацыянала... На з'езд прыбыло больш за 150 чалавек з правам рашаючага голасу і больш за 25 з правам дарадчага голасу. Гэты склад з'яўляецца прадстаўніцтвам каля 18-ці тысяч арганізаваных членаў партыі».**

Рэзалюцыя аб абвяшчэнні Заходняй Камуны (так тады называлася Паўночна-Заходняя вобласць) Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікай была прынята аднагалосна пры пецярых, якія ўстрымаліся. Увайшлі ў новую рэспубліку Мінская, Магілёўская, Віцебская, Гродзенская і Смаленская губерні, некаторыя раёны з іншых губерняў на падставе аналізу нацыянальнага складу большасці насельніцтва.



Дарэчы, землякоў-беларусаў у Смаленску нават за тыя кароткія некалькі дзён, што там былі, сустракалі нямала. Яны—смаляне, любяць горад, у якім жывуць, ганарацца Смаленскам, дзе так многа помнікаў гісторыі і культуры, дзе на сонцы залацяцца купалы цудоўных па сваёй архітэктуры храмаў, зямлёй, што, як і наша беларуская, пабачыла мора слёз і крыві, але выжыла, вытрымала жорсткія выпрабаванні. Усё так, але і Беларусь не стала гэтым людзям чужой, там іхнія продкі, там іхнія карані. Такое не падлягае забыццю.

Нямала адбылося ў Смаленску сустрэч, кароткіх і больш працяглых. Адна з іх—у мясцовым педагагічным інстытуце. Туды нас з фотакарэспандэнтам прывялі ўсё тыя ж «беларускія маршруты» на карце горада. На будынку шыльда-абвестка: тут выступаў Янка Купала. Зайшлі ўнутр. Якраз скончылася лекцыя і ў калідоры хлынула моладзь. На паверсе, дзе месціцца гістарычны факультэт, кінулася ў вочы, што сярод студэнтаў большая частка—хлопцы. Яшчэ некалькі гадоў назад тут вучыліся галоўным чынам дзяўчаты: лічылася, што гістарычная навука не вельмі важная і прэстыжная. Таму і мужчын было мала. Але, як бачым, памылкі, і даволі небяспечныя, выпраўляюцца.

— Гісторыя ніколі не бывае справай другараднай, і вельмі добра, што ўсе сталі разумець гэта,—так мяркуе прафесар, доктар гістарычных навук Дзмітрый Будаеў. Ён працуе ў педінстытуце. Пры падрыхтоўцы сваёй кнігі па гісторыі рэвалюцыйнага мінулага Смаленшчыны звярнуўся і да матэрыялаў, звязаных з I з'ездам Кампартыі Беларусі, абвяшчэннем БССР. Нямала сустракаўся Дзмітрый Іванавіч і са сваімі беларускімі калегамі-гісторыкамі. Нядаўна ездзіў у Віцебск на навукова-практычную канферэнцыю з выступленнем, прысвечаным з'езду ў Смаленску.

Не прамінуў заўважыць паважаны прафесар і тое, што сёння смаляне едуць да суседзяў, каб і лепшы іх гаспадарчы вопыт пераняць. Кажа, ёсць чаму павучыцца ў беларускіх сялян. Такое чуць прыемна. Дарэчы, у сувязі з гэтым яшчэ адна, як здаецца, цікавая вытрымка з пратакола. Хаця з'ява і прыватная, але ж...

### СЛОВА ДАКУМЕНТУ

**З раздзела «Нацыяналізацыя гандлю».**

**«Вельмі яскравым узорам нашых непрыемных—калі не сказаць мацней—промахаў, з'яўляецца пытанне аб нацыяналізацыі гандлю.**

**...Тут трэба не разбурэнне, а планамернасць. Нашы мінскія таварышы лепей за нас улічылі гэта: там не закрыюць ніводнай крамы да таго часу, пакуль не створаць усяго, што можа замяніць прыватны гандаль».**

Сённяшняя перабудова павінна адрадзіць часам растрачаныя на доўгім шляху каштоўныя традыцыі. А яны былі на Беларусі спакон веку. Трэба толькі не забывацца і пра гэта.

Пабываць у старажытным Смаленску і не ўбачыць адну з яго галоўных каштоўнасцей—Успенскі сабор, пабудаваны на пачатку XVII стагоддзя, немагчыма. І мы былі вельмі ўдзячныя супрацоўніцы Смаленскага музея-запаведніка Валянціне Склеенавай (яна, дарэчы, і прадаставіла нам магчымасць пазнаёміцца з Пратаколам з'езда), якая запрасіла нас у храм, была там вельмі цікавым і ўсхваляваным гідам. У гулкай цішы сабора Валянціна Іванаўна нягучна расказвала пра яго багатае ўбранне, рэліквіі, найкаштоўнейшы іканастас—плён сапраўды залатых рук і выдатнага мастакоўскага таленту майстроў. Напаследак мы падышлі да выявы святой Адыгітрыі. Гэтую старажытную ікону неслі перад войскам перад бітвай з Напалеонам на Барадзінскім полі. Былі сярод воінаў і нашы землякі, і сыны рускай зямлі, салдаты іншых нацыянальнасцей. Кожны з іх добра ведаў, хто ён і адкуль ёсць. Але ўсе яны былі разам. Гэтага патрабавала жыццё, гэтага патрабавала і наша агульная зямля.

### ГІСТАРЫЧНАЯ ДАВЕДКА

**1919**

| | |
|---|---|
| 1 студзеня | **Абвяшчэнне Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.** |
| 31 студзеня | **Пастанова Прэзідыума ВЦВК «Аб прызнанні незалежнасці Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі».** |
| 2—3 лютага | **I Усебеларускі з'езд Саветаў рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў. Прыняцце першай Канстытуцыі БССР.** |

Вось такімі мы ўбачылі сёння тыя гістарычныя мясціны, дзе ўпершыню прагучала: «Абвяшчаецца БССР». Цяпер Смаленская вобласць — тэрытарыяльна-адміністрацыйная адзінка Савецкай Расіі. Аднак, калі мы прайшлі па знамянальных для беларусаў мясцінах горада, то з вялікай прыемнасцю ўбачылі: тут добра помняць, шчыра шануюць гісторыю суседзяў і заўсёды рады іх бачыць у сябе ў гасцях.

**Галіна УЛІЦЁНАК.**

**НА ЗДЫМКАХ: пратакол I з'езда Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі; зала, у якой праходзіў I з'езд КП(б)Б; прафесар Смаленскага педагагічнага інстытута Д. БУДАЕЎ; будынак педінстытута, дзе выступаў Янка Купала.**







*En el quinto año de estudios los estudiantes de la facultad de español del Instituto Estatal de Lenguas Extranjeras de Minsk pasan sus prácticas en las escuelas de la ciudad. Son las últimas lecciones que dan como practicantes. Todavía asistirán a conferencias y clases prácticas en el Instituto, tendrán que rendir exámenes en febrero en la sesión de invierno, en junio defender las tesis de diploma y pasar los exámenes estatales de fin de estudios. Ya después de las vacaciones de julio y agosto, en setiembre comienza el año escolar y unos sesenta egresados irán a impartir clases como maestros en las distintas escuelas que hay en las ciudades y aldeas de Bielorrusia, en las cuales como idioma extranjero se enseña el español.*

*En las fotos: G. LOBAREVICH lista para ir a dar la lección de idioma español; un alumno de IV° grado de la Escuela media № 115 de Minsk escucha las instrucciones de la practicante A. SEMIONOVA.*



# LO QUE EL PODER SOVIETICO HA DADO A LOS BIELORRUSOS

**CONVERSACIÓN DEL VICEPRESIDENTE DEL PRESIDIUM DEL SOVIET SUPREMO DE LA REPÚBLICA SOCIALISTA SOVIÉTICA DE BIELORRUSIA, VLADÍMIR MIKULICH, CON EL CORRESPONSAL VIACHESLAV JODOSOVSKI.**

**—El régimen soviético, que venció en un país multinacional a raíz de la Revolución de Octubre de 1917, no sólo íproclamó los principios democráticos de las relaciones entre las naciones, sino también los llevó a la práctica. Uno de los primeros pasos en este camino fue la formación de las repúblicas federadas. ¿Qué derechos y oportunidades otorgó el sistema estatal nacional al pueblo bielorruso?**

—La necesidad de erradicar, de hecho, la desigualdad de las naciones en el terreno político, económico y socio-cultural se expresó con agudeza desde los primeros días del establecimiento del Poder soviético. El pueblo bielorruso heredó del zarismo la pobreza y el analfabetismo, un nivel de desarrollo económico extremadamente bajo, los derechos y las libertades políticos cercenados, el menosprecio a la cultura nacional, hasta el no reconocimiento del idoma nacional e incluso el retiro del uso oficial del término mismo "Bielarus" (Bielorrusia). El poder soviético creó una base segura para solucionar los problemas del desarrollo socioeconómico y espiritual del país. La fundación del Estado nacional no sólo respondía a las esperanzas seculares del pueblo, sino también posibilitaba una solución más efectiva a varios problemas específicos para la región, como son el desarrollo de la lengua nacional y la cultura, la atención a las particularidades demográficas y las tradiciones en la construcción económica, el cuidado y uso racional de los recursos naturales. El hecho de que el primer centro de investigación científica, inaugurado en 1922 al fundarse el Estado bielorruso, fue el Instituto de Cultura de Bielorrusia —con un departamento de humanidades y otro de ciencias naturales—, destacó la importancia de esos problemas.

**—La idea expresada por Lenin, ya en el año 1913, de que "al viejo mundo, al mundo de la opresión nacional, de las discordias nacionales o del aislamiento nacional, los obreros oponen el nuevo mundo de la unidad de los trabajadores de todas las naciones, en el que no hay lugar para ningún privilegio ni para la menor opresión del hombre por el hombre" fue llevada a cabo ya en las primeras leyes del Estado soviético: Declaración de los derechos de los pueblos de Rusia; Declaración de los derechos del pueblo trabajador y explotado; resoluciones del II Congreso y del III Congreso de los Soviets de Toda Rusia. Pero, como se sabe, la ejecución de los principios proclamados en estos documentos se llevó a efecto en las difíciles condiciones creadas por la intervención exterior y por la resistencia de los elementos contrarrevolucionarios.**

—Realmente, la invasión de casi todo el territorio de Bielorrusia —febrero de 1918— por la Alemania del Kaiser, impedía resolver el histórico propósito de formar su Estado tras la victoria de la Revolución de Octubre. En diciembre de ese m año se celebró en Smolensk ... VI Conferencia regional Noroeste del Partido Comunista (de los bolcheviques) de Rusia que se declaró a sí misma I Congreso del Partido Comunista de Bielorrusia (b). Allí se res ó formar la República Social. Soviética de Bielorrusia; y se formó el Gobierno Provisional revolucionario obrero y campesino. La proclamación de la República Socialista Soviética de Bielorrusia se realizó el 1° de enero de 1919. Esta fecha se conmemora como el día del nacimiento del Estado bielorruso. Pero después de esto, las tropas de la Polonia burguesaterrateniente se apoderaron de una parte significativa del territorio de la República. En el verano de 1920, unidades del Ejército Rojo, apoyadas por la población, liberaron Bielorrusia. Sin embargo, conforme al Tratado de Riga del año 1921, parte de su territorio quedó anexado. Sólo después de que en 1939, la parte de Bielorrusia Occidental se quedó unida con la URSS, se terminó la consolidación territorial de la nación bielorrusa.

**—El Estado, surgido a raíz del Poder soviéico, está llamado a ejecutar las funciones organizativas de la construcción socialista y del desarrollo económico y cultural de la nación. ¿Hasta qué punto se ha logrado solucionar estas tareas en Bielorrusia?**

—La posibilidad de ejecutarlas la han grantizado los principios básicos de las relaciones nacionales que establece el poder soviético: la igualdad y soberanía de los pueblos, el derecho de las naciones a la autodeterminación, la supresión de los privilegios y las limitaciones nacionales y religiosas, la unión voluntaria de los trabajadores de las naciones. Hubo bastantes tareas urgentes en aquel período. El restablecimiento de la economía nacional, destruida por los intervencionistas, concluyó hacia el año 1926; hacia 1931 se terminó con la colocación de los cesantes, y hacia 1935 fue liquidado el analfabetismo. Se llevaba a cabo con éxito la reconstrucción de la economía nacional, el desarrollo de la energética y el fortalecimiento del sector agropecuario. Se tomaron medidas para elevar el nivel de vida del pueblo. Entonces, también, fueron asentados los cimientos de la ciencia moderna: en el año 1921 se abrió la Universidad de Bielorrusia, y en enero de 1929 fue fundada la Academia de Ciencias.

Se desarrolló, también, la construcción del Estado. Esto se vio reflejado en la Constitución de la República; la primera fue adoptada en el año 1919, la segunda en 1927, la tercera en 1937, y la última en 1978. La República Socialista Soviética de Bielorrusia es una de las cuatro repúblicas constituyentes de la URSS (30.12.1922). Al igual que las otras repúblicas de la Unión Soviética, Bielorrusia tiene derecho a salir libremente de la Unión de Repúblicas Socialistas Soviéticas, y su territorio no puede ser modificado sin su acuerdo. Ella, así como cualquier otra república, según la Constitución de la URSS, hace uso del derecho a la iniciativa legislativa en el Soviet Supremo del país. La República Socialista Soviética de Bielorrusia tiene derecho a establecer relaciones con Estados extranjeros, a contraer acuerdos e intercambiar representaciones diplomáticas y consulares, y a participar en la actividad de las organizaciones internacionales. En el Soviet Supremo de la URSS, Bielorrusia está representada en ambas cámaras con iguales derechos: en el Soviet de la Unión y en el Soviet de las Nacionalidades.

**—La formación de la Unión de Repúblicas Socialistas Soviéticas fue fruto de la aspiración de los pueblos, que se habían constituido en Estados independientes, de su unión y estrecha consolidación. ¿Qué ejemplos se puede dar del carácter fructífero de este proceso?**

—Ya se ha hablado de la ayuda para rechazar la intervención extranjera. En la difícil primavera del año 1921, Bielorrusia recibió más de un millón de puds de semillas de trigo y papas y el material vario, merced a lo cual se logró crear la base para el restablecimiento de la agricultura. Especialistas de las otras repúblicas ayudaron a construir y a equipar técnicamente las empresas industriales. Un grupo de grandes científicos de Moscú y Leningrado formó el núcleo de la primera institución científica de Bielorrusia. La República Socialista Federativa Soviética de Rusia (RSFSR) le otorgó a Bielorrusia un crédito por 20 millones de rublos oro para la edición de libros. En las imprentas de Moscú y Leningrado se organizó la edición de literatura en bielorruso. Hubo, también ejemplos de otro tipo. Cuando se formaba la URSS, la Bielorrusia soviética estaba constituida sólo por seis distritos de la ex gobernación de Minsk y tenía una población de poco más de un millón y medio de personas. Esto limitaba sus recursos materiales y económicos. En marzo de 1924, en respuesta a los deseos del pueblo, el Comité Ejecutivo Central de Toda Rusia entregó a la República Socialista Soviética de Bielorrusia varias regiones de otras provincias en las que había marcado predominio de población bielorrusa. La segunda ampliación semejante ocurrió en el año 1926. El resultado fue que el territorio de la República aumentó y la población alcanzó a 5 millones de personas, el 80 % de las cuales estaba compuesto por bielorrusos.

Un ejemplo notable del internacionalismo soviético fue la lucha contra la agresión hitleriana durante la Gran Guerra Partia, y la liquidación de sus consecuencias. En la lucha contra los invasores participó todo el pueblo sovíético. En Bielorrusia perecieron 2 millones 200 mil personas, o uno de cada cuatro habitantes. Los invasores convirtieron en ruinas 209 ciudades y centros regionales e incendiaron 9.200 aldeas. La República Socialista Soviética de Bielorrusia perdió más de la mitad de su riqueza nacional; sin embargo, ya hacia 1950, gracias al trabajo abnegado de su población y a la ayuda de todos los pueblos soviéticos, fue superado el nivel de producción industrial de preguerra.

**—En los años 50 y 60 se inició la formación de las condiciones económicas y sociales actuales. ¿Cómo es hoy la situación de Bielorrusia?**

— Se han creado ramas industriales totalmente nuevas para la República: construcción de aparatos de pracisión, construcciones mecánicas, química petrolera, electrónica y radioelectrónica, producción de abonos minerales y de fibra sintética. Bielorrusia es hoy una región agroindustrial desarrollada.

Hay determinados logros en el campo del bienestar de la población y del desarrollo de la base material de la cultura. Por ejemplo: en los úlmitos quince años, los ingresos reales han aumentado en el 78 % por persona. Cada tres años se eleva el área habitacional más que durante todos los años anteriores a la guerra. Anualmente, se editan más de 3.000 libros con una tirada total que supera los 50 millones de ejemplares. Al servicio de la población hay más de 7.000 bibliotecas, 17 teatros profesionanes y más de 100 teatros populares de aficionados, y 90 museos. En las agrupaciones del arte amateur participa más de un millón de ciudadanos de las más diferentes profesiones y edades. Hay, también, determinados éxitos en la salud pública: a 10 mil personas les corresponden 38 médicos y cerca de 110 personas del restante personal médico.

**—No obstante, analizando el período de los años 70 y comienzos de los 80, que se ha denominado como el de estancamiento, debemos reconocer que lo que se ha hecho está lejos de ser todo.**

— La erradicación de los fenómenos de estancamiento en la economía y en los procesos sociales, la intensa acelaración del desarrollo en todas las esferas de nuestra vida, el desarrollo de la democracia y la transparencia informativa, y la elevación del nivel de vida de la población son las tareas principales de la perestroika. La adopción de nuevas leyes sobre la empresa estatal, sobre las colectividades laborales y sobre las cooperativas ha inspirado a los trabajadores a dinamizar las labores económicas y ha acelerado la ejecución de una reforma económica radical.

El problema habitacional se resuelve a ritmos acelerados, aumenta la producción de artículos des consumo popular; se crean nuevas condiciones para el desarrollo de la cultura, el arte y el descanso de la población, y a todo esto se le destinan, como nunca antes, enormes inversiones.

El pueblo bielorruso comprende que resolver la tarea de la perestroika es posible sólo en condiciones de paz. La República Socialista Soviética de Bielorrusia realiza una activa política de paz en los marcos de la ONU y en otros organismos internacionales. Su objetivo es fortalecer la paz y la seguridad internacional, prevenir la catástrofe nuclear, frenar la carrera armamentista y lograr el desarme.

Entramos con optimismo al octavo decenio de nuestro desarrollo. Toda la experiencia de nuestra historia, que confirma la vitalidad de las ideas del socialismo, inspira seguridad en la realización de nuestros objetivos.

*Redactor de la «Página en español»: D. OKULIK*

спадчыны і далучэннем да яе ўсіх слаёў грамадства. Але пакуль што гэта справа энтузіястаў, хоць яна павінна стаць дзяржаўным, агульнанародным клопатам.

Выданне «Гісторыі беларускага мастацтва», якое супала ў часе з перабудовай грамадскага жыцця, можа стаць пачаткам новага этапу культурнага развіцця і мастацкага выхавання народа. Грунтоўнае даследаванне мастацкай спадчыны дае разуменне сапраўдных эстэтычных каштоўнасцей, значна пашырае сферу нашых уяўленняў і ведаў, узбагачае патрыятычнае пачуццё.

Сапраўды, як многа значыць для чалавека ведаць, што радавод яго культуры бярэ пачатак не з руйнавання старога свету, а са стварэння красы і што гэтая краса па праву культурнай спадчыны належыць і яму.

«Гісторыя беларускага мастацтва», як ніякае іншае даследаванне, дае багатую рэтраспектыўную карціну развіцця шматлікіх відаў мастацтва, і ў гэтай карціне ёсць месца для рэгіянальных школ і традыцый, а таксама асобных дойлідаў і мастакоў, імёны якіх гісторыя захавала для нас.

У абодвух тамах даследуецца складаны працэс выпрацоўкі мастацкіх стыляў, культура Беларусі разглядаецца ў кантэксце агульнаеўрапейскага мастацкага развіцця. На самым пачатку фарміравання самабытных асноў беларускай культуры найбольш прадуктыўнымі былі ўплывы і традыцыі візантыйскага і старажытнарускага мастацтва. Пазней, з пашырэннем мастацкага вопыту рэнесансу і барока, прыкметна выявілі сябе традыцыі італьянскай, галандскай і іншых заходнееўрапейскіх школ і кірункаў архітэктуры, выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. З Беларуссю звязана творчая дзейнасць архітэктара італьянца Дж. М. Бернардоні, нямецкага жывапісца Іагана Шрэтара і іншых таленавітых мастакоў.

Традыцыі старажытнарускага і еўрапейскага мастацтва розных эпох у спалучэнні з мясцовай мастацкай практыкай, з густам і ўмельствам таленавітых беларускіх майстроў нараджалі такія творы мастацтва і помнікі культуры, што засталіся ў вяках, сярод якіх нельга жыць з абыякавым сэрцам. Гэта унікальнасць гродзенскай Каложы і палескага драўлянага дойлідства, фрэсак Спаса-Ефрасіннеўскай царквы ў Полацку, манументальнага жывапісу нясвіжскіх, магілёўскіх і мсціслаўскіх храмаў, унікальнасць скульптурных ансамбляў у касцёлах Будслава і Міхалішак, слуцкіх паясоў і ўрэцкага шкла...

«Гісторыя беларускага мастацтва» рыхтавалася да выдання не адзін год. І першыя тамы гэтай працы вялікага аўтарскага калектыву былі канчаткова аформлены да друку яшчэ ў час панавання ідэалагічных стэрэатыпаў, адрынутых зараз самім жыццём. Таму ва Уводзінах да шматтомнага даследавання знайшлі адлюстраванне некаторыя састарэлыя канцэпцыі грамадска-культурнага развіцця (тэорыя так званага развітога сацыялізму). Даволі хісткім з'яўляецца сцвярджэнне пра ўпартую барацьбу беларусаў за сваю культурную самабытнасць... з літоўскімі феадаламі.

Такія палажэнні — прадукт свайго часу. Яны нараджаюцца ў пэўным часе і паміраюць разам з ім. Таму не будзем надаваць ім асаблівага значэння, уседамляючы важнасць пачэснай і неабходнай працы — даследавання тых каштоўнасцей чалавечай культуры, якія, з'яўляючыся прыналежнасцю гісторыі народа, належаць вечнасці.

Люба ТАРАСЮК.

*СПРОБА ПОГЛЯДУ ЗНУТРЫ*

# ФЕНОМЕН «ПАХОДНІ»

НАД высокай гарой нёс свае хвалі Нёман. А на строме гарэлі паходні, выхопліваючы асобныя твары з людское грамады. Адну з іх узяў юнак і, нахіліўшы, паднёс да голля. Шуганула полымем купальскае вогнішча. Пайшоў карагод з песняй, сочачы за колам на слупе, якое мусіла потым абрынуцца на зямлю...

Дзеля чаго распачаў я свае нататкі аб гродзенскім гісторыка-культурным клубе «Паходня» з замалёўкі Купальскае ночы? Бо, на маю думку, адноўленае народнае беларускае свята як найлепш увасабляе адраджэнскую дзейнасць моладзі. Па расказах старажылаў ведаю, што даўней Купалле шырока адзначалася гродзенцамі на Каложскай гары. Потым святу не стала месца ў сучасным горадзе. І вось летась Купальская ноч вярнула ў сэрцы гараджан той духоўны пачатак, які, здавалася б, у заўсёднай мітусні быў страчаны назаўжды.

«Паходня» — адна з першых «ластавак» тых згуртаванняў, з'яўленне якіх засведчыла адлігу, абумоўленую новым палітычным курсам кіраўніцтва краіны. Здавалася, нават прырода падрыхтавалася тады да адлігі. Памятаю той дзень 12 сакавіка 1986 года: каля двух дзесяткаў маладых людзей сабраліся ўпершыню ў гарадскім Доме культуры, каб стварыць свой клуб. Зразумела, што гэта была пераважна інтэлігенцыя. Але здзівіла, што добрую палову ад усіх складалі навукоўцы — біёлагі з цяперашняга Інстытута біяхіміі Акадэміі навук БССР.

Большасць будучых маіх сяброў была мне незнаёмай. Таму ўразіла, што імкнен[illegible] згуртавацца на культур[illegible]ветніцкім грунце, як аказалася, даўно лунала ў паветры... Па першым часе суполка існавала безназоўна. Ішлі спрэчкі аб назве. Што яны былі плённымі, сведчыць і тое, шт[illegible]ным з прапанаваных най[illegible]яў — «Сябрына» — завецц[illegible] цяпер беларускі клуб у Вільнюсе.

Цікавая дэталь. Пачуўшы пра новую суполку, да нас адразу пагарнуліся людзі старэйшага веку: пісьменнікі, інстытуцкія выкладчыкі, усе іншыя, каму неабыякавы лёс роднай культуры. Гэтак прыйшоў да нас і Міхась Ткачоў, гісторык, археолаг, публіцыст, заўзяты прапагандыст нашай спадчыны, зараз доктар гістарычных навук.

У людзей, што чытаюць сёння беларускую прэсу з БССР і цікавяцца развіццём маладзёжнага руху, можа скласціся думка аб існаванні нейкага феномена «Паходні». Бо іншыя суполкі часцяком падвяргаюцца крытыцы на старонках друку, гродзенскаму ж клубу, як па нейкай завядзёнцы, даецца ўвесь час станоўчая ацэнка. А гэта, дарэчы, выклікае часам раздражненне ў іншых апанентаў. Прыкладам, на адным з гарадскіх сходаў нейкі прамоўца, не хаваючы сваёй непрыязнасці, з сарказмам сказаў, што хопіць паўтараць пра плённасць супрацоўніцтва камсамола з клубам, час, маўляў, займаць наступальную пазіцыю...

Але гэты чалавек наўрад ці меў рацыю. Расставіць усе кропкі над «і» ў нашых стасунках мы змаглі раней. Феномен «Паходні» якраз у тым, што ад пачатку клуб кантактаваў з гарадскімі ды абласнымі ўладамі. Зрэшты, сказаць так, значыць выказацца не цалкам. Бо плённых стасункаў не было б, калі б процілеглы бок не імкнуўся да гэтага таксама.

Аднойчы, яшчэ напачатку існавання клуба, калі пра яго распаўсюджваліся самыя неверагодныя чуткі, на запрашэнне ўзяць удзел у пасяджэнні адгукнуўся Анатоль Пархута, галоўны архітэктар вобласці. Слухаючы гарачыя маналогі хлопцаў, ён не ўстрымаўся, каб не заўважыць: «Не трэба процістаўляць сябе нам. Давайце працаваць разам! Бо і мы шчыра хочам, каб наша старажытная архітэктура набыла прывабны выгляд». І гэта не былі пустыя словы. Сведчанне гэтаму — літаральна выбуховае развіццё рэстаўрацыйнай справы ў Гродне ў апошнія некалькі гадоў.

Але, прызнаюся, прычына для канфлікту тады ўсё ж была. У свой час па загаду аднаго чыноўніка была засыпана частка гэтак званай «Швейцарскай даліны», у якой цячэ рэчка Гараднічанка. Паверхню залілі асфальтам і пачалі будаваць шэрыя змрочныя адміністрацыйныя камяніцы. Тым самым амаль канчаткова быў парушаны ансамбль Гарадніцы — вялікага квартала канца XVIII стагоддзя. Але гэтага падалося мала. У кабінетах саспела думка зруйнаваць будынак віцэ-губернатара, помнік архітэктуры з 200-гадовай гісторыяй, і тым самым стварыць у старым горадзе неўласцівы для яго вялізны пляц. Дзякуючы процідзеянню грамадскасці, візітам да ўлад М. Ткачова і пісьменніка А. Карпюка, было знойдзена кампраміснае рашэнне.

Такім чынам, мы адмыслова запрашаем да сябе гасцей, не кажучы ўжо пра тое, што кожны жадаючы можа свабодна наведаць пасяджэнне. Зрэшты, не трэба думаць, што ўсё ў нашых адносінах гэтак бясхмарна. Справа ў тым, што прыйсці і паслухаць самому, аб чым гамоняць у «Паходні», а пры патрэбе і аргументавана паспрачацца,— такое жаданне ёсць далёка не ва ўсіх. Хоць станоўчых прыкладаў і нямала. Лягчэй жа паступаць інакш. І раней неаднойчы на ўсялякіх гарадскіх мерапрыемствах, сходах, канферэнцыях і г. д. сяды-тады можна было пачуць нядобрае слова ў наш адрас, хоць і без канкрэтызацыі. Апошнім жа часам неабгрунтаваная крытыка нават узмацнілася. З трыбуны дазваляюць сабе казаць бязглуздзіцу звычайна цалкам выпадковыя людзі, якія не толькі ані разу не былі ў клубе, але нават нікога з ягоных сяброў на свае вочы не бачылі.

Але паўтару яшчэ раз: адносіны рады клуба з абласнымі ды гарадскімі савецкімі і партыйнымі ўладамі добразычлівыя. Безумоўна, плённым было сумеснае абмеркаванне праграмы М. Ткачова пад назвай «Гродна — горад-музей і горад музеяў». Не ўсе прапановы былі ўхвалены, не, але падтрыманай засталася большая іх частка, і яны ўжо пакрысе пачынаюць ажыццяўляцца. Можна прыгадаць хаця б збор экспанатаў для музея КПЗБ і КСМЗБ у Гродне. Унеслі свой даробак мы і ў план манументальнай прапаганды горада. З часам у Гродне павінны з'явіцца помнікі К. Каліноўскаму і Цётцы, Ф. Багушэвічу і легендарнаму воіну сярэднявечча князю Давыду Гарадзенскаму. Гэтым самым на вуліцы старога горада выйдзе сама беларуская гісторыя ў абліччы асоб, дарагіх сэрцу кожнага беларуса, дзе б ён ні жыў.

Станоўчы імідж, створаны прэсай «Паходні», як гэта ні дзіўна, спарадзіў у сяго-таго з нашых сяброў у іншых месцах Беларусі і падобную думку: вас нахвальваюць, бо вы нічога канкрэтнага не робіце, займаецеся балбатнёй. Ды гэта, зразумела, няслушна. Іншая рэч, што рада клуба выбрала пэўны канструктыўны кірунак сваёй дзейнасці. Калі ўзяць, прыкладам, суботнікі, гэта значыць дабрачынную працу па раскопках, [illegible]арадкаванні могілак і г. д., [illegible] яны ёсць і на нашым ра[illegible]нку. Але гэта не можа быць нашай галоўнай мэтай. Хаця, зразумела, чыноўнікам было б зручней, каб моладзь працавала з рыдлёўкай у руках [illegible] не задавала няпростых [illegible]няў, не дамагалася кардын[illegible]нага паляпшэння стану нацыянальнай культуры.

Адным з галоўных напрамкаў дзейнасці клуба мне бачыцца арганізацыя вялікіх агульнагарадскіх, а таксама рэспубліканскіх і міжрэспубліканскіх мерапрыемстваў, якія збіраюць шмат люду. Разам з фондам культуры, інстытутамі былі праведзены навуковыя канферэнцыі, прымеркаваныя да 400-годдзя першага анатаміравання на Беларусі, 300-годдзя гродзенскай фарнай аптэкі, да 150-х угодкаў К. Каліноўскага, а з самых апошніх — вялікія мерапрыемствы, прысвечаныя Я. Драздовічу, М. Багдановічу, вечарына памяці продкаў «Дзяды». Сёлета зборы з некалькіх іншых платных мерапрыемстваў былі пералічаны на рахунак будучага помніка К. Каліноўскаму ў Гродне.

Дадаць свае словы я папрасіў сакратара клуба, кандыдата біялагічных навук Міколу Таранду.

— Апроч таго, што ты ўжо сказаў, вельмі важным з'яўляецца наш удзел ва ўсіх агульнабеларускіх мерапрыемствах, якія ладзяць суполкі, падобныя да нашых, і ЛКСМБ. Назаву тут паход па Дзвіне разам з латышамі, які меў на мэце пратэст супраць будаўніцтва (экалагічна шкоднага). Даўгаўпілскай ГЭС. Падобны паход, ужо па Прыпяці, супраць яе абвалавання адбудзецца сёлета. Сябры нашага клуба бралі ўдзел у першым вальным сойме маладзёжных суполак, першай рэспубліканскай нарадзе таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя», мітынгу на вайсковым полі пад Мілавідамі. Было і шмат іншых акцый.

Спачатку «Паходня» была болей клубам сустрэч, бо людзей было няшмат. Кожнага разу ладзіліся чай з печывам, а калі дык і з тортам, прыгатаваным нашымі дзяўчатамі. Цяпер жа мы змянілі сваю гасцёўню-пакой на залу, якая заўжды бывае паўнюткая, бо збіраецца ў ёй па 100—140 чалавек. Цікавасць да спраў, якімі жыве клуб, відавочна ўзрасла, шмат прыходзіць сталых людзей, часцяком сем'ямі. Гэта нядзіўна, бо абмяркоўваюцца ж надзённыя праблемы: гаспадарчага разліку рэспублікі і яе суверэнітэту, дзяржаўнасці беларускай мовы, нацыянальнай школы, экалогіі. Святло «Паходні» вабіць пісьменнікаў, навукоўцаў, моладзь з іншых мясцін: Мінска, Ленінграда, Масквы. У нас выступалі дактары навук У. Конан, А. Грыцкевіч, А. Мальдзіс, Ю. Хадыка, вядомыя гісторыкі В. Грыцкевіч, А. Каўко, Г. Каханоўскі, М. Ермаловіч. Проста цяжка прыгадаць усе сустрэчы.

Ну, а што ж вабіць у клуб ягоных сяброў? Прывядзём тут думкі некаторых з іх.

**Аляксандр БАЗАР**, робіць у праектнай установе:

— Сам я навагрудскі. Хлопцам бегаў да школы і кожны раз праміна́ў замчышча. Балюча, што замкі нашы разбураны. Людзі сталі абыякавыя да зямлі. Разрыюць на якую гаспадарчую патрэбу курган ці проста пагорак, ды так і кінуць. Прыкра ўсё гэта. А ў клуб прыйдзеш, пабудзеш з аднадумцамі, пагамоніш, паспрачаешся, сэрца палегчыш. Гэта дапамагае жыць. Таму збіраемся мы зараз штотыдзень.

**Зміцер КІСЕЛЬ**, рабочы:

— Я вывучаю завочна гісторыю ва універсітэце. Даўно задумваўся, чаму ў нас такая няпраўдзівая гісторыя. А на «Паходні» ад самага пачатку гаварылі пра наша мінулае толькі праўду. І ў мяне да ўсяго гэтага не проста цікаўнасць: бацька мой такім юнаком, як я, быў пасля вайны незаконна рэпрэсіраваны...

Цяпер прашу выказацца аб «Паходні» старшыню клуба **Міхася ТКАЧОВА:**

— Некаторым карціць абвінаваціць нас у нацыяналізме. Але ж гэта бязглуздзіца, бо ў нашым клубе людзі васьмі нацыянальнасцей. Марныя спробы і адшукаць дзесьці палітычную інфантыльнасць. У нас бадай 30 працэнтаў камуністаў, шмат камсамольцаў. Нашы мэты супадаюць з курсам партыі на перабудову грамадства, на вяртанне ленінскіх норм развіцця дзяржавы. Мы не жадаем нечага звышнатуральнага, а хочам, каб дзеці нашы вучыліся ў роднай школе, каб квітнела беларуская мова і наша культура. І нам няма чаго баяцца. Бо мы на сваёй зямлі жывём і хочам быць тут гаспадарамі...

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ.**

*ЦІКАВА ВЕДАЦЬ*

# ВАМ ВІНШАВАННЕ...

Навагоднія паштоўкі... Яны сталі звычайнай з'явай у нашым побыце. А якая ж гісторыя навагодніх паштовак?

Аздобленыя навагоднія паштоўкі з надпісам «З Новым годам» на рускай мове з'явіліся ў канцы мінулага стагоддзя, больш дакладна, у дзевяностых гадах. А правобразам нашай сучаснай паштоўкі, найперш па форме, у нейкім сэнсе, былі аплаткі — танюсенькія, як папяровыя лісткі, выпечаныя з мукі карткі з рознымі біблейскімі выявамі на іх.

Аплаткі перадавалі, пасылалі адзін аднаму і за калядн ай вячэраю ўспаміналі ўсіх тых, хто іх прыслаў.

Вось колькі радкоў перад навагодняга ліста Ф. Багушэвіча да яго сябра Адама Карповіча, з якога выразна паўстае роля аплаткі.

«Дарагі Адась! — пісаў Ф. Багушэвіч 21-га снежня 1899 года. — Віншую Цябе з блізкімі святамі і Новым годам. Я і жонка запрашаем Цябе да нас на куццю. Калі каму ўжо абяцаў, то ўспомні і нас пры раздзеле аплаткі, якую далучаем».

Паводле слоў вядомага беларускага краязнаўца Аляксандра Ельскага, аплатка — гэта «знак любві, братэрства і спакою». Менавіта такое значэнне аплаткі ён зрабіў у лісце да Яна Карловіча за 14/26 1892 года.

Першую спробу спалучыць мастакоўскую выяву з навагоднім тэкстам на беларускай мове зрабіў у 1906 годзе мастак Кастравіцкі (Карусь Каганец).

Праўда, яго задума мела больш палітычны характар, чым навагодні, і адносілася хутчэй да жанру сатыры. Тым не менш тут ужо меўся надпіс: «Поздроўляю з Новым рокам!»

(Заканчэнне на 8-й стар.).

## *САВЕЦКІЯ ГІМНАСТКІ—ЧЭМПІЁНКІ АЛІМПІЯДЫ*

# ЧАРАЎНІЦЫ НА ПАМОСЦЕ

Не ўсе верылі ў іх перамогу, але савецкія спартсменкі ўсё ж заваявалі залатыя медалі і ў камандным, і ў асабістым першынстве на Алімпійскіх гульнях у Сеуле. Тым самым яны ўзялі рэванш у румынскіх гімнастак за мінулагодняе паражэнне на чэмпіянаце свету.

Напярэдадні Гульняў дзевяціразовая алімпійская чэмпіёнка Ларыса Латыніна гаварыла:

— Спаборніцтвы ў Сеуле будуць для савецкай каманды самым цяжкім выпрабаваннем за апошнія восем гадоў. Але перамога для іх—задача цалкам дасягальная. Асноўныя камбінацыі адпрацаваны настолькі, што колькасць паўтораў ужо перайшла ў якасць выканання. Дзяўчынкі здольны паказаць прыгожыя кампазіцыі, дакладныя саскокі і атрымаць медалі самай высокай пробы.

Прагноз славутай спартсменкі пацвердзіўся. Зборная СССР выйграла алімпійскі турнір з сумай балаў 395,475, апярэдзіўшы румынак на 1,35 бала.

— Мне здаецца,—лічыць цяпер Латыніна, — што няўдачы на чэмпіянатах свету і Еўропы 1987 года саслужылі савецкім гімнасткам, як гэта ні парадаксальна, добрую службу: яны даведаліся не толькі пра моцныя, але і слабыя бакі саперніц і ўлічылі гэта.

За зборную каманду СССР выступалі ленінградка Алена Шашунова, масквічка Алена Шаўчэнка, рыжанка Наталля Лашчонава, Вольга Стражава з Запарожжа, мінчанка Святлана Багінская і магілёўчанка Святлана Баітава.




### ЗАЛАТЫ СКАЧОК БАГІНСКАЙ

Асабліва радуемся мы за дэбютантку такіх адказных спаборніцтваў—15-гадовую мінчанку Святлану Багінскую, гімнастку зайздроснай стабільнасці, нягледзячы на яе юны ўзрост. Акрамя залатой каманднай узнагароды, яна атрымала такую ж за апорны скачок. Гэтую спартсменку вызначаюць закончанасць ліній, востры, рытмічны стыль.



— Багінская —добрая мнагаборка, любіць спаборнічаць, — гаворыць Андрэй Радзіёненка, старшы трэнер зборнай СССР. — Яна дастаткова моцная і спрытная, каб выконваць практыкаванні вышэйшай складанасці, пры гэтым грацыёзная, знешне прывабная, прыемна глядзець на яе ў вольных практыкаваннях.

Рост Святланы 154 сантыметры, вага 42 кілаграмы. У аснове яе кампазіцыі на дыване му[illegible] ў рытме дыска, а стыль выканання Багінскай бліжэй да рокавага. Сочачы за яе вольнымі, разумееш, што гэта якраз той выпадак, калі выразныя магчымасці гімнасткі раўнацэнныя выразным магчымасцям музыкі. Багінская старанна выконвае кожны элемент. У гэтым заслуга яе [illegible]эўніка Любові Міраманавай, якая, на жаль, трагічна загінула праз некалькі дзён пасля Алімпіяды. Міраманава любіла Святлану, як родную дачку, і аберагала дзяўчынку ад усіх бед і хваляванняў. Яна цаніла ў Святлане самастойнасць, давала ёй магчымасць выбіраць сабе заняткі, іншы раз нават ствараць гімнастычныя эцюды.

— Я адразу зразумела, — успамінала Любоў Максімаўна, — дзяўчынка проста унікальная, надзвычай моцная фізічна, учэпістая, рухавая і на рэдкасць зараджаная на работу. Скажаш зрабіць дзесяць паўтарэнняў — выканае трыццаць, ды яшчэ стараецца хутчэй, абысці ў чарзе сябровак. Заданні схоплівала імгненна і выконвала амаль з ходу. Наогул, характар амаль ідэальны для спартсменкі. Ды калі ўлічыць задаткі лідэра, якія адразу праявіліся, — дзяўчынка ні ў чым і нікому не хацела ўступаць, заўсёды нацэлена на самае высокае дасягненне, — вы зразумееце, якія надзеі я стала звязваць з гэтай малышкай.

Настаў момант, калі Міраманава прыехала ў Маскву, на вучэбна-трэніровачны збор маладзёжнай зборнай краіны са Светай «пад пахай» (ёсць такі выраз у спартсменаў), гэта значыць прывезла яе як бы паўлегальна, без выклікаў, і звярнулася да нядаўна назначанага галоўным трэнерам Анатоля Казеева: «Паглядзіце дзяўчынку, з яе, думаю, выйдзе толк».

З таго часу яны працавалі разам. Разам ляпілі ідэальную, па свайму разуменню, гімнастку, якая ўмее дасканала валодаць сваім целам, бясстрашную і— пры неабходнасці — бясстрасную. Колькі таленавітых спартсмен[illegible] у напружаны момант не могуць саў[illegible] з эмоцыямі, у выніку так і не раскрываюцца поўнасцю! Багінская ж памыляецца вельмі рэдка, і ў гэтым ёсць немалая заслуга цярплівай працы яе настаўнікаў.

Святлана яшчэ гуляе ў лялькі, але гэта вельмі своеасаблівыя гульні. У трох дзесяткаў пласцікавых я[illegible]лек, памерамі па 12-15 сантыметраў, [illegible]кі, ногі, шыя, тулава рухомыя. Паслухмяныя волі гімнасткі, фігуркі выконваюць тыя ж практыкаванні, якія развучвае сама Святлана. З сабой на спаборніцтвы спартсменка звычайна бярэ ляльку-пераможцу.

Як бачым, гульня дапамагае гімнастцы знайсці дакладны пластычны рысунак, вобраз на кожным снарадзе. Нездарма ж Міраманава іншы раз сама ішла ў магазін цацак і купляла Святлане ляльку.

Разам яны працавалі дзевяць гадоў. Страта сябра і настаўніка стала для Святланы напапраўнай.

Шасцігадовую Святлану знайшла ў дзіцячым садзе адна з вучаніц Міраманавай — Людміла Савіна, якая, відавочна, пастараецца замяніць цяпер спартсменцы любімага педагога. Дзяўчынка ў той час ужо два гады займалася фігурным катаннем. Але пасля першага ж урока гімнастыкі Святлана не захацела пакінуць залу.

### СЯБРОЎКА ПА КАМАНДЗЕ

15-гадовая Святлана Баітава, школьніца (як і большасць у камандзе) з Магілёва—абсалютная чэмпіёнка СССР 1986 года і сярэбраны прызёр сусветнага чэмпіянату 1987 года. На алімпійскім памосце яна ўдала спалучала пластычную, рамантычную гімнастыку з элементамі ультрасі. Здавалася, што гэты сінтэз гімнастцы ўдаваўся вельмі лёгка, тэлеаператары пастаянна спынялі свае камеры на адухоўленым, добразычлівым твары Баітавай.

«Забойшчык»—так называюць гімнасты спартсмена, якому даверана першаму ў камандзе выходзіць да снарада. Роля гэтая асабліва адказная і ў нейкай ступені ахвярная: пракладваць лыжню першаму намнога цяжэй, загадзя вызначана, што арбітры паскупяцца на самы высокі бал для запявалы. Расшчодрыліся адразу—што ставіць апошнім? Вынік дуэлі з румынкамі, чэмпіёнкамі Еўропы і свету (гэта разумелі ўсе), вельмі ў многім залежаў ад паспяховага старту. Двойчы ў абавязковай праграме Баітава пачынала, двойчы ішла другой за Аленай Шаўчэнкай. Ацэнкі 9,7 і тройчы 9,8 не маюць патрэбы ў каментарыях. Зачын быў падхоплены, усе дзяўчаты выступалі натхнёна, што, вядома, стала далёка не прыемнай нечаканасцю для Сіліваш, Добрэ, Голі і іх сяброўак. Ну а нашы, набраўшы тэмп, дагнаць сябе ўжо не дазволілі.

Вялікі спорт патрабуе поўнай самааддачы. Святлана любіць пагаварыць з сяброўкамі, паслухаць сучасную музыку, добра ўмее вязаць, з задавальненнем чытае. Толькі вось часу на гэтыя прыемныя заняткі, на жаль, нямнога. І дома яе можна цяпер застаць, ну, хіба што ў выхадныя дні. А так—трэніроўкі, вучоба ў школе-інтэрнаце спартыўнага профілю, зноў трэніроўкі. Трэнер Святланы Алег Мішчанка прыдумвае арыгінальныя элементы і звязкі, распрацоўвае праграмы, рыхтуе сваю вучаніцу да новых вяршынь у спорце.



# ВАМ ВІНШАВАННЕ...

(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).

Між іншым, паштоўкі да рэвалюцыі называлі на Беларусі «пісулькамі», «паштовымі пісулькамі». Назва «паштоўка» замацавалася пазней. Этымалогія гэтага слова выразная, тлумачэння не патрабуе.

Але непасрэдна навагодніх паштовак у дарэвалюцыйны час на беларускай мове не выдавалі. А з 1917 года і аж да 1941 у СССР было спынена выданне навагодніх паштовак і на рускай мове: аскетычныя галовы палічылі, што гэта лішніца ў нашым жыцці, перажытак мінуўшчыны.

Таму першыя навагоднія паштоўкі з надпісамі на беларускай мове з'явіліся позна, дзесьці толькі на пачатку шасцідзесятых гадоў нашага стагоддзя. Стваральнікамі іх былі мастакі Яхім Тарас, Анатоль Волкаў, Уладзімір Басалыга, Павел Драчоў, а таксама фатографы М. Ананьін, В. Зеляноў. Першыя беларускія навагоднія паштоўкі атрымаліся, як нам здаецца, даволі ўдалыя. На іх пераважаюць мяккія, блакітнасветлыя колеры. У гэтакіх жа мяккіх фарбах і навагоднія выявы з відамі нашай сталіцы.

А на адной з іх (аўтар яе А. Волкаў)—Новы год з Дзедам Марозам едзе на славутым трактары «Беларусь». Каляровая гама на гэтай паштоўцы больш разнастайная, чым на іншых. Чырвоны трактар, чырвоная зорка на ёлцы, чырвоны кажух, шапка, рукавіцы ў Дзеда Мароза. Згаданыя тут паштоўкі пазначаны 1963, 1964 гадамі. Больш ранніх навагодніх паштовак з надпісам на беларускай мове нам выявіць не ўдалося.

Мастак Уладзімір Басалыга, адзін з першых аўтараў беларускіх навагодніх паштовак, згадвае пра той час: «Выдавецтва «Беларусь» абвясціла конкурс. Я яшчэ быў студэнт—узяўся. Згубілі шыфр. Не ведалі, чые паштоўкі. Так яны ў канверце і праляжалі. Пасля адну выпусцілі, а астатнія ў мяне засталіся».

З тае пары на Беларусі было наладжана рэгулярнае выданне навагодніх паштовак. З якімі толькі выявамі яны ні выходзілі! З Дзедам Марозам і Снягуркамі, гадзіннікамі, ялінкамі, нястрымнымі тройкамі і зубрамі, зыркімі свечкамі, снегавікамі, сняжынкамі, ёлачнымі цацкамі, героямі казак і паданняў—карацей, з самымі разнастайнымі навагоднімі выявамі.

І на ўсіх іх адно пажаданне:

«З Новым годам!».

Выпускае іх у асноўным выдавецтва «Беларусь». У 1984 годзе тут створана спецыяльная рэдакцыя. Праўда, пакуль паштовак тут выпускаецца не так ужо шмат, як гэтага хацелася б. Але, як нам паведамілі, ужо ў недалёкай будучыні выбар стане значна большы.

Апошнім часам цікавыя ўзоры навагодняй паштоўкі распрацавалі ў Маладзечне.

Аўтар адной з іх—мясцовы мастак Юрась Герасіменка-Жыхнеўскі.

На навагодніх паштоўках усяго тры-чатыры словы, але як ад іх усё ж на імгненне становіцца цёпла на душы. Будзем спадзявацца, што нашы мастакі паруляцца, каб беларускія навагоднія паштоўкі сталі яшчэ больш прывабныя, каб на іх былі самыя разнастайныя выявы з нашага жыцця, фальклору.

Уладзімір СОДАЛЬ.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:

МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Зак. 5